# СЛОНІМСКІ КРАЙ

№ 10, лістапад 2016

Краязнаўчы бюлетэнь



*Фалерыстыка*

## Слонімшчына на значках




Фалерыстыка, як гістарычная дысцыпліна, мае два значэнні. Па-першае, яна вывучае гісторыю ордэнаў, медалёў і іншых знакаў адрознення. Па-другое, фалерыстыка — гэта калекцыяніраванне значкоў і розных нагрудных знакаў.

У калекцыях слонімскіх фалерыстаў ёсць таксама значкі, прысвечаныя Слонімшчыне, Слоніму, яго прадпрыемствам, спорту і памятным датам. Самым першым, які выйшаў пасля 1945 года, быў значок, прысвечаны 25-годдзю вызвалення Слоніма ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. На ім адлюстраваны помнік загінуўшым воінам, які знаходзіцца на вуліцы Пушкіна. Пра яго мы распавядалі ў мінулым нумары “СК”.*

*Працяг чытайце на с. 4*

## Пра прыдарожную капліцу на былой Скробаўскай вуліцы

Калісьці на галоўных уездах у Слонім былі прыдарожныя каталіцкія капліцы. На сённяшні дзень захавалася толькі адна — святога Дамініка на скрыжаванні вуліц Пушкіна і Міцкевіча. Пра іншыя вядома вельмі мала.

Польскі краязнавец Вільгельм Хенеберг у 1925 годзе пісаў, што “на ўездзе ў Слонім, у чатырох яго кропках, стаяць каплічкі”. Акрамя капліцы святога Дамініка, ён звярнуў увагу на тую, што была “пры дарозе на Жыровічы”. Паводле Хенеберга, адна з каплічак ляжала ў руінах[1], але дзе яна знаходзілася, ён не ўдакладніў (верагодна, на Замосці).

Польскі гісторык Марыя Каламайска-Саед у сваім даследаванні, прысвечаным каталіцкім храмам Слонімшчыны, згадвае капліцу святога Яна Непамуцкага, але піша, што яна знаходзілася ў Слоніме на Дамініканскай вуліцы.[2] Цяпер гэта плошча Леніна.

Даследчыца з недаверам аднеслася да згадкі, выяўленай у адным з дакументаў, што капліца была “пры дарозе на Рышчыцы” (гэта значыць на Скробаўскай вуліцы, цяперашняй Чырвонаармейскай). А яна была менавіта там!

*Працяг чытайце на с. 6*



- Што такое Слонімшчына?
- Гэта наша Беларусь!
- Што такое Беларусь?
- Гэта наша Ўсё!

*ХРОНІКА*

## Краязнаўчая віктарына




4 кастрычніка ў Слоніме прайшоў фінал крос-віктарыны “Ведай свой край”, якая ўжо стала традыцыйнай. Сёлета сярод удзельнікаў былі навучэнцы гарадскіх школ, прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў, Мінскай духоўнай семінарыі з Жыровіч і работнікі мясакамбіната. Як піша “Слонімскі веснік”, у выніку “Кубак дэпутатаў” заваявала каманда семінарыстаў. Арганізатарам віктарыны з’яўляецца слонімскі краязнаўца і журналіст Васіль Афанасік.

## Помнік Льву Сапегу зноў пад пытаннем




Яшчэ ў пачатку лютага 2016 года на мерапрыемстве ў цэнтры культуры ў Слоніме прадстаўніком мясцовых уладаў было заяўлена, што сёлета ў горадзе з’явіцца помнік Льву Сапегу, слонімскаму старосце, канцлеру Вялікага княства Літоўскага. Гэты праект мае доўгую гісторыю, бо з’явіўся яшчэ ў канцы 1990-х, але не быў рэалізаваны з-за адсутнасці неабходных сродкаў. Як піша “Газета Слонімская”, у кастрычніку намеснік старшыні Слонімскага райвыканкама Уладзімір Кот паведаміў, што пытанне з помнікам Сапегу “на сённяшні дзень адкрытае”. Гаворкі пра яго ўстаноўку ў 2016 годзе ўжо няма, няма ўпэўненасці, што ён з’явіцца і ў наступным годзе. Праблема засталася старая — грошы. Працягваецца пошук спонсараў.

## Пра карэкціроўку генплана Слоніма




17 кастрычніка ў Слонімскім раённым выканаўчым камітэце адбылася прэзентацыя і грамадскае абмеркаванне праекта “Генеральны план горада Слоніма. Карэкціроўка”. Гаворка ішла пра змены, якія могуць адбыцца ў Слоніме ў бліжэйшае дзесяцігоддзе. Гэта і з’яўленне веладарожак, і новая аб’язная аўтадарога, і новае жыллё.

## Юбілей Дзятлаўскага музея

21 кастрычніка 50-годдзе адзначыў Дзятлаўскі дзяржаўны гісторыка-краязнаўчы музей. Урачыстасць прайшла ў адной з яго залаў, на яе сабраліся краязнаўцы, настаўнікі, работнікі культуры і прадстаўнікі мясцовых уладаў. Было шмат віншаванняў і падарункаў. Краязнаўца са Слоніма Сяргей Чыгрын падараваў музею “Хрэстаматыю новай беларускай літаратуры” Ігната Дварчаніна, якая была выдадзена ў Вільні амаль 90 гадоў таму.




## Асвяцілі слонімскую крыніцу



23 кастрычніка ў слонімскім мікрараёне “Энка”, недалёка ад Салдацкага возера, адбылося ўрачыстае, з удзелам праваслаўных святароў, асвячэнне крыніцы пасля яе добраўпарадкавання, праведзенага мясцовымі жыхарамі.

Сярод прысутных быў Іван Ціхан, славуты слонімскі спартсмен, кідальнік молата, сярэбраны прызёр Алімпіяды ў Рыа-дэ-Жанейра (на здымку з сайта racyja.com).

## Адзначылі стагоддзе паэта Алеся Сучка




У Азярніцы ў мясцовай бібліятэцы прайшла вечарына, прысвечаная 100-м угодкам з дня нараджэння дзеяча беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, паэта Алеся Сучка (Пятра Дабрыяна, 1916 — 1993).

Прысутнічала і моладзь, і старэйшыя людзі, якія добра памятаюць вядомага земляка. Унучка паэта Аксана паказвала фотаздымкі свайго дзеда, яго рукапісы. Паэт, літаратуразнаўца Сяргей Чыгрын цікава распавёў пра свае сустрэчы з Алесем Сучком.

З АРХІВАЎ

# Дакумент пра падзямеллі Слоніма і Дзярэчына

“СК” ужо звяртаўся да тэмы падземных тунэляў, пабудаваных у Слоніме ў XVII стагоддзі.[1] Асобныя згадкі на працягу года з’яўляліся і ў мясцовым друку, што сведчыць пра пэўную зацікаўленасць слонімцаў і жаданне разгадаць таямніцу.

Чытач нашага бюлетэня Васіль Рубец перадаў у рэдакцыю фотакопію дакумента, якая знайшлася ў архіве Васіля Супруна. Ён датаваны 22 жніўня 1914 года (ужо пасля пачатку Першай сусветнай вайны), складзены начальнікам павятовай паліцыі і адрасаваны гродзенскаму губернатару. Подпіс неразборлівы, але з “Адрас-календара і даведачнай кніжкі Гродзенскай губерні на 1915 год” вядома, што ў той час “павятовым спраўнікам” быў Васіль Мачынскі,[2] а пасаду губернатара займаў Вадзім Шэбека.

Можна меркаваць, што дакумент быў адшуканы ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў г. Гродна (праўда, ніякіх пазнак пра фонд, вопіс ці справу на фотакопіі не відаць). Васіль Супрун пра яго ніколі не распавядаў, на яго не спасылаўся ў сваіх публікацыях, нават калі пісаў пра падзямеллі. Вось так з’явілася яшчэ адна таямніца...

Увогуле дакументы пра падзямеллі, уведзеныя ў навуковы зварот — гэта рэдкасць. Таму рапарт слонімскага паліцэйскага начальніка, нягледзячы на адсутнасць фактычных звестак па г. Слоніме, вельмі каштоўны. У гэтым нумары “СК” змешчана частка гэтага дакумента, цалкам ён будзе апублікаваны ў кнізе “Падземны Слонім”, якая рыхтуецца да друку.

Адзначым, што паліцэйскі начальнік засведчыў існаванне сярод жыхароў горада ўжо ў пачатку XX стагоддзя падання пра падзямеллі. Аднак канкрэтных


Существуетъ еще въ народѣ преданіе, что въ г. Слонимѣ, подъ городскимъ садомъ и базарной площадью есть погреба и подземный ходъ до с. Жировицъ, но никакихъ достовѣрныхъ указаній на это не имѣется.-

...здный Исправникъ Мачин...

Рапортъ.

Доношу ВАШЕМУ ПРЕВОСХОДИТЕЛЬСТВУ, что во вв... номъ мнѣ уѣздѣ сохранились слѣдующія старинныя ...нія и сооруженія.

...пещеры, ведущія въ подземелье замурованы; ... щера снаружи очень искусственно задрапирована а сверху обсажена деревьями; почва вблизи это...

дадзеных на гэты конт ён, на жаль, не меў. Затое быў зафіксаваны ўваход у падземны тунэль ў Дзярэчыне.

**Сяргей Ёрш**

Яго Правасхадзіцельству
Гродзенскаму Губернатару

Рапарт

Даношу ВАШАМУ ПРАВАСХАДЗІЦЕЛЬСТВУ, што ў даручаным мне павеце захаваліся наступныя старажытныя будынкі і збудаванні:

[…]

3/ ...Па існуючай народнай пагалосцы ў м. Дзярэчын ёсць падземны ход у г. Слонім, пабудаваны князем Сапегам[3] на выпадак нібыта адступлення пры заваяванні яго ўладанняў; у цяперашні час захаваўся толькі галоўны ўваход у гэтае падзямелле ў выглядзе своеасаблівай пячоры, якая мае ў шырыню 4 аршыны[4], дзверы [нечытэльна] пячоры, якія вядуць у падзямелле, замураваныя; згаданая пячора звонку вельмі штучна прыкрытая [нечытэльна], а зверху абсаджаная дрэвамі; глеба каля гэтага [нечытэльна] у некалькіх месцах значна штогод прасядае, утвараючы ў зямлі выемкі.[5] Фотаздымкі палацу, пячоры, парку, помніка і каменнай сцяны пры гэтым прадастаўляюцца.

Існуе яшчэ ў народзе паданне, што ў г. Слоніме пад гарадскім садам і базарнай плошчай ёсць скляпенні і падземны ход да в. Жыровічы, але ніякіх праўдападобных сведчанняў пра гэта няма.

*Павятовы спраўнік Мачынскі*

Пераклад з рускай мовы.

---

1. Ёрш С. Да пытання існавання ў Слоніме падземных тунэляў // Слонімскі край, 2016, № 1, люты, с. 4-5.

2. Адресъ-календарь и справочная книжка Гродненской губерніи на 1915 годъ. — Гродна, 1915, с. 275.

3. Дзярэчын перайшоў ва ўладанне князёў Сапегаў у 1685 годзе.

4. 2,8 метра.

5. На тэму падзямелляў у Дзярэчыне гл. наступную публікацыю: Шумель В. Подземные ходы в Деречине: миф или реальность? // Газета Слонімская, 2013, 31 снежня.

# Слонімшчына на значках

*Працяг. Пачатак на с. 1*

Выпушчана ў свет і некалькі значкоў з выявамі гербаў Слоніма. Гэтыя гербы выклікаюць у гісторыкаў і калекцыянераў неадназначныя думкі. Напрыклад, быў выпушчаны значок, на якім адлюстраваны герб Слоніма, зацверджаны 6 красавіка 1845 года, у той час, калі наш горад уваходзіў у склад Расійскай імперыі. Гэты герб уяўляў сабой шчыт, які падзелены на дзве палавіны: у верхняй змешчаны зубр, як эмблема тагачаснай Гродзенскай губерні, а ў ніжняй палавіне на блакітным полі — два скрыжаваныя мячы, паміж якімі стаіць дата — 1275. У гэтым годзе князі галіцка-уладзімірскія (продкі цяперашніх украінцаў) адваявалі Слонім у Літвы, гэта значыць, у літвінаў (беларусаў).

Вялікую цікавасць у слонімскіх фалерыстаў выклікаюць значкі з гербам горада над Шчарай, які па хадайніцтве слонімскага старосты Льва Сапегі быў дадзены каралём Рэчы Паспалітай Жыгімонтам III 4 студзеня 1591 года. Да сённяшняга дня ён з'яўляецца гербам Слоніма і афіцыйна зацверджаны Слонімскім райвыканкамам. Такіх значкоў выйшла некалькі. На адных з іх адлюстраваны ў блакітным полі залаты леў з гербам "Ліс" у лапах і напісана на беларускай мове слова "Слонім", на іншых — леў і дата — 1252, якая сведчыць аб першым упамінанні горада ў Іпацьеўскім летапісе.

Шмат значкоў з гербам Слоніма з'явілася ў канцы 1990-х — у пачатку XXI стагоддзя. У серыі "Геральдыка гарадоў Беларусі" быў выпушчаны вялікі значок з гербам Слоніма. Да 755-годдзя першай згадкі нашага горада ў Іпацьеўскім летапісе выйшаў таксама значок з гербам горада на рускай мове: "Слоним 775 лет". Да выпуску некалькіх прыгожых значкоў з гербам Слоніма меў дачыненне ў пачатку нашага стагоддзя слонімец Алесь Масюк. З яго добрай ініцыятывы былі выпушчаны значкі з гербам Слоніма і з бел-чырвона-белай стужкай. А на адным са значкоў адлюстравана карта Беларусі, у цэнтры яе — герб Слоніма і зверху тэкст: "Я люблю свой горад!". Алесь Масюк таксама меў дачыненне і да выпуску значка "Слонімскае маладзёжнае грамадскае аб'яднанне "Ветразь". Вялікі значок з гербам Слоніма выпускала і "Газета Слонімская".

У 1970-1990-х гадах прадпрыемствы Слоніма адзначалі свае юбілеі. І да гэтых датаў памятныя юбілейныя значкі і медалі выпусцілі камвольна-прадзільная фабрыка, фабрыка "Тэкстыльшчык", кардонна-папяровы завод, мэблевая фабрыка, фабрыка пер'е-пуховых вырабаў. У форме медаля былі выпушчаны значкі КПФ, "Тэкстыльшчыка", кардонна-папяровага завода і Слонімскага лясгаса. Найбольш арыгінальнымі і прыгожымі атрымаліся значкі-медалі лясгаса і Слонімскай фабрыкі мастацкіх вырабаў да 50-годдзя іх утварэння. Яны зроблены на беларускай мове з элементамі беларускай нацыянальнай і гістарычнай сімволікі.

Дарэчы, Слонімскі кардонна–папяровы завод выпускаў значкі двойчы: адзін у форме медаля, а другі выходзіў у 1977 годзе. Гэта быў кругленькі значок з гербам прадпрыемства і тэкстам: уверсе напісана "50 лет" унізе — "СКБЗ".

У 1984 годзе свой значок выпусціў і Слонімскі аўтарамонтны завод. На ім паказаны шасцярня і аўтамабіль "Масквіч", а таксама тэкст на рускай мове: "Авторемзаводу 40 Слоним-84". Як бачыце, слонімскія значкі засталіся нам на памяць, а некаторых прадпрыемстваў у Слоніме ўжо няма.

Меў свой значок і Жыровіцкі тэхнікум механізацыі сельскай гаспадаркі (цяпер гэта каледж).




На ім адлюстраваны герб тэхнікума, літары "ЖТМСХ", зорачка і тэкст: "БССР, основан 1945".

Дзякуючы слонімскаму гісторыку Аляксандру Жукоўскаму, быў выпушчаны значок, прысвечаны Народнаму музею СШ № 4 г.Слоніма.

У канцы 1990-х гадоў у Слоніме праходзілі рэспубліканскія фестывалі сямейнай творчасці. Да другога фэста быў выпушчаны спецыяльны значок з тэкстам "II рэспубліканскі фестываль сямейнай творчасці Слонім'97".

Маюць свой значок і Жыровічы. На ім адлюстраваны герб Жыровічаў: у блакітным полі выява двух мужчынскіх постацей: правая стаіць на каленях, левая трымае ў працягнутых руках кнігу. Над гербам на значку напісаны тэкст з памылкай: "Жировічы". І такое, як бачыце, бывае ў фалерыстыцы.

На аўкцыёне ay.by сёння можна лёгка набыць і слонімскія значкі, прысвечаныя футбольным клубам "Камунальнік", "Белтрансгаз" і "Слонім"...

Даволі багатая фалерыстыка слонімскай тэматыкі. І яна радуе, бо гэта — наша гісторыя.

**Сяргей Чыгрын**

*Чыгрын С. Першы пасляваенны слонімскі значок // Слонімскі край, 2016, № 9, кастрычнік, с. 15.

# Пра прыдарожную капліцу на былой Скробаўскай вуліцы



*Гарнізонная царква ў Слоніме. Фотаздымак часоў Першай сусветнай вайны*

*Працяг. Пачатак на с. 1*

У гэтым можна пераканацца, разглядаючы вядомы здымак 1916 года царквы Аляксандра Неўскага (цяпер гэта тэрыторыя 11-й механізаванай брыгады), на якім відаць і капліца пры дарозе. Яе абрысы ідэнтычныя малюнку, зробленаму І. Луўновічам у 1896 годзе.

Ян Непамуцкі (1350 — 1393) — каталіцкі святы, які жыў і прыняў пакутніцкую смерць у Чэхіі. На абразах яго адлюстроўваюць з пальмавай галінай і вянком з зорак над галавой. Паводле Каламайскай-Саед, капліца яго імя была пабудавана ў неагатычным стылі ў другой палове XIX стагоддзя.[3] Верагодна, і тут польская даследчыца памылілася, а капліца была ўзведзена на 100 гадоў раней (амаль адначасова з капліцай святога Дамініка, якую пабудавалі ў 1745 годзе).

Ёсць звесткі, што каплічка Яна Непамуцкага з'явілася на Скробаўскай вуліцы ў 1782 годзе, яшчэ пры Рэчы Паспалітай, праўда, невядома, на якіх дакументах яны грунтуюцца.[4] Малаверагодна, каб расійскія царскія ўлады ў сярэдзіне XIX стагоддзя дазволілі пабудаваць на ўскраіне горада каталіцкую капліцу. У той час яны забіралі ў Каталіцкай царквы будынкі храмаў, кляштароў. Таму версія пра пабудову капліцы Яна Непамуцкага ў XVIII стагоддзі нам падаецца вельмі праўдападобнай.

Вядома, што каплічка, у якой знаходзілася драўляная фігурка святога, была мураванай, тынкаванай. Ахоўвала яе каменная агароджа. На здымку 1916 года відаць, што капліца была занядбаная. Аднак у 1922-м яе адрэстаўравалі, дзякуючы высілкам слонімцаў і польскіх вайскоўцаў.[5] Знішчылі помнік архітэктуры пасля 1945 года.[6]

**Сяргей Ёрш**

1. Henneberg W. Słonim // Ziemia, 1925, № 10-12, кастрычнік-снежань, с. 205. У перакладзе на беларускую мову гэтую публікацыю гл. тут: Слонімскі край, 2016, № 8, верасень, с. 12-13.
2. Kościoły i klasztory rzymskokatolickie dawnego województwa Nowogródzkiego, część II, tom 3. Miasto Słonim. — Kraków, 2013, c. 158.
3. Тамсама.
4. Geneza powstania [79 pułku piechoty] // 2011, 21 ліпеня; http://79pp.pl/79-p-p/historia.html
5. Тамсама.
6. Kościoły i klasztory rzymskokatolickie dawnego województwa Nowogródzkiego, część II, tom 3, c. 158.



*І. Луўновіч, які маляваў капліцу ў чэрвені 1896 года, у каментары па ілюстрацыі назваў яе памылкова. Малюнкі ўзятыя з кнігі "Kościoły i klasztory rzymskokatolickie dawnego województwa Nowogródzkiego, część II, tom 3. Miasto Słonim".*

# Арандатары зямель і сенакосаў на слонімскіх прадмесцях Абалонь і Замосце ў канцы XIX ст.

У XIX стагоддзі колькасць насельніцтва Слоніма вырасла з 6403 гараджан у 1846-м да 15863 у 1897 годзе, пераважную частку якіх складалі яўрэі. Яны з'яўляліся асноўнымі арандатарамі прыналежных гораду зямельных плошчаў, аб чым сведчаць дадаткі да газеты "Гродзенскія губернскія ведамасці".

Адным з самых значных слонімскіх арандатараў быў мяшчанін Мацвей Сурман, які з 5 снежня 1879 года трымаў кавалак зямлі ў 4 дзесяціны 348 сажняў *(1 дзесяціна раўнялася 1,09 га, або 2400 квадратным сажням)* пад назваю "Мяшчанскія агароды", за які штогод плаціў па 44 рублі, і сенакос у 5 дзесяцін ва ўрочышчы "Падасінікі". Вялізны сенакос з ворыўнай зямлёй у 9 дзесяцін 102 сажні ва ўрочышчы "Бабікаўшчызна" атрымаў граф Пуслоўскі ад Меера Мадзелёвіча. Граф таксама арандаваў у горада кавалак у 1590 квадратных сажняў у лесе, дзе была пабудавана папяровая фабрыка. Сенакос ва ўрочышчы "Фальваркаўшчызна" плошчаю ў 12 дзесяцін 25 сажняў арандаваў Франц Сакалоўскі.

Побач знаходзіўся сенакос былога кляштара бенедыктынак, плошчаю ў 13 дзесяцін 47 сажняў, канфіскаваны дзяржаваю. Яго арандаваў заможны жыхар Слоніма Кушаль-Куніца, побач кавалкі зямлі простых слонімцаў. Так, участак № 3 арандавалі Наталля Махвіц, Фрэйда Бярозаўская, Давід Пружанскі, Іцка Крупеня, Вольф Рыбацкі, Сэндар Альперт; № 4 арандавалі Зімель Валянскі, Абрам Брыкін, Берка Левін, Шмуель Альперт, Будрэвіч і Ярашэвіч, Давід Рахмелевіч, Аляксандр Яфімовіч, Берка Левін, Берка Саладоўнік; № 5 Абрам Моўша Гаўфман, Зелік Шундароўскі, Майсей Грышчук. Частка бенедыктынскай зямлі пастановай ад 28 ліпеня 1876 года была адведзена пагарэльцам, сярод якіх былі Мілакоўскі, Ханон Бярозаўскі, Іцка Сідэльніцкі, Мендэль Асакоўскі і Схарый Езярніцкі.




*Гарадская зямля на Замосці на плане Слоніма 1823 года*

Сенакос ва ўрочышчы "Вянцкевічы" ў адну дзесяціну 46 сажняў быў аддадзены ў арэнду мяшчаніну Батурле, а сенакос ва ўрочышчы "Чэхаўшчызна" ў 7 дзесяцін 53 сажня – Цэндроўскаму. Сенакос ва ўрочышчы "Скубітоўка" ў 7 дзесяцін далі ў арэнду Станіславу Шыманскаму, які перадаў яго ва ўладанне нашчадкам Іоселя Лідоўскага.

Іншыя кавалкі слонімскай зямлі арандавала гарадская бедната. Так, агароды, вернутыя ад павятовай каманды, плошчай у дзве дзесяціны 978 сажняў, падзялілі на 15 частак паміж нашчадкамі Янкеля Мышкіна, Шэймаю Рубінраўтам, Зеняю Карыцкаю, яшчэ адным Янкелем Аркінам, нашчадкамі Якава Шэгідзевіча, Каменкаю, Меерам Рамесніцкім, Віґдзерзонам, Яхаю Мышкінаваю, Іцкаю Шарашэўскім, Мардухам Урыноўскім, Рубінам Белавусам і яшчэ тры часткі належалі Янкелю Аркіну.

На прадмесці Абалонь арандатарамі гарадской зямлі былі: Янкель Нахімаўскі, Рыгор Міхалькевіч, Морда Шумаховіч, Абрам Ярушэвіч, Шмуель Чэсан, Ель Краўчук, Лейба Эліавіч Мерамінскі-Касакоўскі, Аўсей Немкін, Янкель Смакоўскі, Давід Урыноўскі, Гілер Крупеня (уладальнік двух участкаў), Еля Мардух Крупеня, Францішак Астроўскі, Рыгор Каралько, Еля Шылавіцкі, Берка Шумах, Вікенцій Коджык, Уладзіслаў Граеўскі, Іцка Мардух і Цыра-Лей Пешкін, Мацвей Блажэвіч, Янкель і Лея Карпоўскія, Іван Платонаў, Іцка Янкель Шмаеўскі, Гірша Палонскі, Евэль Айцын, Міхель Рабіновіч.

Значныя часткі слонімскай зямлі аддалі пад будаўніцтва дамоў заможных жыхароў горада. Так, на прадмесці Вікенцій Швідэ атрымаў у 1882 годзе 1500 кв. сажняў, 10 ліпеня 1883 года 689 кв. сажняў побач Завістоўскі, 424 кв. сажні — Мацвей Аблачынскі, 200 кв. сажняў па пераўступцы ад Даміяніка Бранцэвіча — Апалінарый Баркоўскі, і 930 кв. сажняў Амурат Абрамовіч. Па 100 кв. сажняў пад забудову па вуліцы Маскоўскай мелі Антанін Будрэвіч, Пружанскі, Карноўскі, Аляшкевіч, Мера Парыцкая і Мерамінскі.

На падставе "Гродзенскіх губернскіх ведамасцяў" мы ведаем прозвішчы усіх арандатараў слонімскіх прадмесцяў Абалонь і Замосце. Гэтыя ўладальнікі, асабліва буйныя, зараблялі грошы, здаючы ў арэнду зямельныя кавалкі звычайнаму гарадскому насельніцтву. Нават права лавіць рыбу ў старым рэчышчы Шчары і ў яе затоках належала мяшчаніну — Гіршу Куніцы.

**Васіль Герасімчык**

# Пра трагічны лёс слонімскіх бурмістраў міжваеннага часу



EGITYMACJA SŁUŻBOWA №

M STRAT M. SŁONIMA STWIERDZA, ŻE OKA-
ZICI NIEJSZEGO P. Łojko Antoni
ZAJMUJE STANOWISKO kontroler sanitarny
W M. SŁONIMIE
WOJEWÓDZTWA NOWOGRÓDZKIEGO.
WAŻNA DO DN. 2 marca 1937 R.
M. SŁONIM, DN. 31 grudnia 1937 R.

Sekretarz Burmistrz
Inż. H. Bieńkie
Burmistrz

*Службовае пасведчанне Антона Лойкі ад 1937 года, падпісанае слонімскім бурмістрам Генрыкам Бенькевічам. Дакумент з архіву Людмілы Клімовіч (Лойка).*

Чытаючы слонімскую кнігу “Памяць”, можна падумаць, што два дзесяцігоддзі польскай акупацыі 1919-1939 гадоў нашы дзяды і прадзеды толькі і рабілі, што змагаліся за нацыянальнае вызваленне ці за ўтапічную камуністычную ідэю. Насамрэч, змагароў, як і заўсёды, было ў той час не шмат. Большасць насельніцтва жыло сваім жыццём: працавалі, кахалі, гадавалі дзяцей, маліліся ў храмах, служылі ў войску, займаліся спортам, наведвалі крамы і кірмашы, чыталі кнігі, газеты, часопісы, некаторыя глядзелі фільмы ў кінатэатры, больш заможныя падарожнічалі. А колькі было розных крымінальных здарэнняў, не менш, чым цяпер. Жыццё было нялёгкім, але пад мірным небам. Пасля Першай сусветнай і польска-савецкай войнаў адбудоўваўся Слонім, ажывалі вёскі, вярталіся сяляне, якія ў 1915-м выязджалі ў бежанства ў Расію.

Польская ўлада была чужой для падаўляючай большасці жыхароў Слонімшчыны. Многія не ведалі польскай мовы, паколькі вучыліся ў рускіх школах. Таму Варшава пачала пасылаць у Заходнюю Беларусь, на дапамогу нешматлікім “лаяльным” адзінкам з мясцовага насельніцтва, надзейныя кадры з “цэнтральнай Польшчы”, якія атрымлівалі пасады ў дзяржаўных установах, у паліцыі, судах, школах (а яшчэ ж былі і асаднікі, якія атрымлівалі зямлю). Будзе няправільным гаварыць пра гэтых людзей толькі кепскае. Нямала было такіх, што сумленна працавалі на сваіх становішчах над адбудовай горада і гаспадарчага жыцця (безумоўна, у гэты лік не ўваходзяць “сілавікі”, якія катавалі беларускіх актывістаў, адпраўлялі іх у турмы і канцлагер у Картуз-Бярозе).

У гэтым нумары “СК” хацелася б згадаць пра некалькіх слонімскіх бурмістраў, на наш погляд, незаслужана забытых. У гэтых людзей і іх сем’яў быў трагічны лёс. Бальшавікі, устанаўліваючы восенню 1939 года сваю ўладу, не шкадавалі прадстаўнікоў былой польскай адміністрацыі, лічылі іх калі не адкрытымі ворагамі, дык патэнцыйнымі. У лепшым выпадку гэтых людзей чакала высылка ў Расію, у горшым — катаванні і смяротнае пакаранне...

Бурмістры (звычайна гэта былі палякі, не мясцовыя жыхары) выбіраліся гарадской радай, яны кіравалі гаспадаркай горада (за павет адказваў староста). Эдвард Клімовіч (1878 — 1940) быў слонімскім бурмістрам у другой палове 1920-х гадоў. Пра яго і яго дзейнасць вядома мала. Неяк летам 1927 года з Навагрудка, цэнтра ваяводства, прыехаў журналіст, але Клімовіча на працоўным месцы не аказалася... У Слонімскім павеце ў Эдварда Клімовіча (дарэчы, ураджэнца Масквы) былі два маёнткі (адзін з іх — у Чамяроўскай гміне). У пачатку 1928-га на пасадзе бурмістра яго змяніў Уладзімір Плябанскі (ураджэнец Магілёўшчыны, які перад пераездам у Слонім працаваў у Лідзе). Апошняга ад савецкіх рэпрэсій выратавала тое, што ён памёр сваёй смерцю ў 1932 годзе (дзве яго дачкі ўдзельнічалі ў 1944 годзе ў Варшаўскім паўстанні, загінулі). А вось Эдварда Клімовіча арыштавалі восенню 1939 года ў Ваўкавыскім павеце. У 1940 годзе яго ўтрымлівалі ў слонімскай турме. Дзе ён быў расстраляны і дзе пахаваны, невядома.

З верасня 1931 года бурмістрам у Слоніме быў Казімір Міхальскі, які датэрмінова змяніў Уладзіслава Ельскага. Міхальскі нарадзіўся ў Варшаве ў 1892 годзе (у некаторых крыніцах падаецца 1894 год), вучыўся ў Рызе, быў архітэктарам паводле адукацыі. У 1919 годзе вярнуўся на радзіму і добраахвотнікам уступіў у войска, ваяваў супраць бальшавікоў. Пасля вайны нейкі час жыў у Варшаве (працаваў у банку), пасля ў маёнтку Вайнілоўцы ў цяперашнім Мастоўскім раёне (тады гэта быў Слонімскі павет). У канцы 1920-х гадоў К. Міхальскі ўжо працаваў у Слоніме, быў актыўны ў шэрагу грамадскіх арганізацый. Калі ў 1928 годзе пачалася рэстаўрацыя касцёла Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі (касцёла бернардзінак),



*Казімір Міхальскі*

ён узначаліў гэтыя работы, абсалютна бясплатна.

Пры бурмістры Міхальскім Слонім марудна, але аднаўляўся (сродкаў, як заўсёды, не хапала). Займаў ён гэтую пасаду дзесьці да сярэдзіны 1930-х гадоў. Вядома, што ў жніўні 1939 года Казіміра Міхальскага прызвалі ў польскае войска. Верагодна, восенню ён трапіў у савецкі палон. Яго прозвішча згадваецца сярод палякаў, расстраляных савецкімі катамі ў 1940 годзе ў Катыні пад Смаленскам.

Сімвалічная магіла Міхальскага ёсць на могілках у Варшаве, каля магілы жонкі Аліны (яна памерла ў 1988 годзе) і дачкі, таксама Аліны (1925 — 1989). Там жа ёсць сімвалічная магіла сына слонімскага бурмістра — Збігнева, які загінуў у 1944 годзе, як удзельнік Варшаўскага паўстання. Дачка Казіміра Міхальскага Аліна Дарашэўска (яна, дарэчы, скончыла школу ў Слоніме) падчас вайны трапіла ў нямецкі канцлагер, выжыла, у пасляваеннай Польшчы зрабіла выдатную кар'еру навукоўца-батаніка.

Апошнім слонімскім бурмістрам пры польскай уладзе быў інжынер Генрык Бянькевіч. Ён нарадзіўся ў цяперашнім Вялікапольскім ваяводстве ў 1882 годзе. Бурмістрам быў у другой палове 1930-х гадоў. Паводле паведамленняў тагачаснай прэсы, ён зрабіў для горада нямала добрых спраў.

Восенню 1939 года Бенькевіча арыштавалі ў Слоніме. Спачатку ён знаходзіўся ў слонімскай турме, пасля яго адправілі ў Мінск. Дакладных звестак пра яго лёс няма. Мяркуецца, што ў 1939-1940 гадах ён быў расстраляны бальшавіцкімі катамі і пахаваны ў Курапатах пад Мінскам. У красавіку 1940 года яго сям'ю дэпартавалі ў Казахстан. Праўда, 16-гадовага сына Браніслава, гімназіста, арыштавалі яшчэ ў снежні 1939 года за антысавецкую агітацыю і ўдзел у антысавецкай групе. У 1940 годзе ён быў асуджаны на 5 гадоў "папраўча-працоўных лагераў". Браніслаў Бянькевіч быў рэабілітаваны ў 1989 годзе.



*Генрык Бянькевіч з сынамі Браніславам і Янам.*

**Сяргей Ёрш**

# Зноў пра крыж на Ружанскіх могілках

У жнівеньскім нумары "СК" былі змешчаныя фотаздымкі вялікага бетоннага крыжа, які стаіць на Ружанскіх могілках у Слоніме насупраць старой брамы.[1] Але пра гісторыю яго нічога дакладна не было вядома. І вось, пераглядаючы запіс успамінаў В. Супруна, зроблены аўтарам гэтых радкоў у верасні 1997 года, сустрэў наступную згадку пра згаданы крыж:

"Крыж быў пастаўлены слонімцамі ў 1943 годзе, зімой. Было холадна, мокра, сыра. Устанаўлівалі яго вельмі ўрачыста. Быў мітынг у час устаноўкі... Крыж драўляны, вышыня — метраў пяць. Ужо было відаць, што саветы могуць вярнуцца. Таму, з гэтай прычыны, нічога на ім не пісалі. Толькі на мітынгу ў час выступаў гучала, што крыж у знак ушанавання памяці ахвяр бальшавізму на слонімскай зямлі... Пасля 1956 года ён яшчэ стаяў. Недзе ў 1960-я гады яго зламалі. А пасля хтосьці цішком паставіў замест зламанага бетонны крыж (сваёй формай ён нагадваў папярэдні), толькі крыху далей ад месца, дзе быў драўляны. Там ён і цяпер стаіць".

Таямніцай застаецца надпіс, які быў на шыльдзе на бетонным крыжы. Пра яго Супрун нічога не згадаў.

**СЁ**

1. Гурскі Г. Крыж на Ружанскіх могілках // Слонімскі край, 2016, № 7, жнівень, с. 14.



*З АРХІВАЎ*

# Дакументы пра дзейнасць польскага падполля на Слонімшчыне




Падчас Другой сусветнай вайны на Слонімшчыне існавала польскае падполле, якое ставіла сваёй мэтай адраджэнне польскай дзяржаўнасці ў межах да верасня 1939-га. У 1939-1941 гадах і пасля 1944-га — антысавецкае, у 1941-1944 гг. — антынямецкае. Было яно нешматлікім. З аднаго боку шэрагі падпольшчыкаў радзелі з-за рэпрэсій, якія праводзілі савецкія ці нямецкія карныя органы, з іншага — база для польскіх арганізацый на пераважна праваслаўнай Слонімшчыне не была значнай.[1]

Савецкія партызаны і разнастайныя спецгрупы/спецатрады, закінутыя з-за лініі фронту ў 1943-1944 гадах актыўна збіралі інфармацыю пра польскія падполле і партызанскі рух, часам сустракаліся з іх прадстаўнікамі.[2] Рабілася гэта з перспектывай на час пасля вызвалення ад нямецкіх акупантаў. Было зразумела, што польскія нелегальныя структуры, якія падначальваліся эміграцыйнаму ўраду Польшчы ў Лондане, стануць праблемай для органаў савецкай улады. Таму яшчэ ў час нямецкай акупацыі збіралася інфармацыя пра іх удзельнікаў, пра канспірацыю, пра ўплыў польскай прапаганды на насельніцтва. Усё гэта перадавалася савецкай дзяржбяспецы, а тая пасля выгнання немцаў арыштоўвала польскіх падпольшчыкаў, якія "засвяціліся" і засталіся на месцы (частка іх пайшла на захад для ўдзелу ў Варшаўскім паўстанні).

Дакументы 1943-1944 гадоў, якія змяшчаем у гэтым нумары "СК" — гэта асобныя старонкі з дасье, якое было сабранае савецкімі партызанамі і іх агентурай на Слонімшчыне. Яны друкуюцца ў перакладзе з рускай мовы.

**Сяргей Ёрш**

***З данясення камандзіру брыгады імя Панамарэнкі лейтэнанту Сенькіну і намесніку начальніка штаба брыгады лейтэнанту Рыгіну***

У вёсцы Селявічы ёсць польская арганізацыя /плынь не высветленая — Сікораўская ці іншая/, у якой налічваецца 11 чалавек. С[акрэтны] а[сведаміцель] "Селезень"[3] паведаміў, што кіраўніка арганізацыі выявіць пакуль не ўдалося. Заўважаны чатыры самыя актыўныя чальцы польскай арганізацыі "Polska bojowa organizacja podziemna" /"Польская баявая арганізацыя падпольная"/, яе самыя актыўныя чальцы: Маркевіч Людвіг, падчас існавання былой польскай дзяржавы быў войтам, Маркевіч Браніслаў — былы солтыс, Жыткевіч Фёдар — выпушчаны немцамі з савецкай турмы, сям'я выслана [ў] Арх[ангельскую] вобл[асць], Жыткевіч Казе[мір?] — сям'я выслана. Пры гэтым Маркевіч Браніслаў у нецвярозым стане нашаму с[акрэтнаму] а[сведаміцелю] выказаўся, што ён неўзабаве будзе кіраваць польскім народам, а Геня /прозвішча не ўстаноўлена/, работнік маёнтка Мошкі, у размове з нашам с[акрэтным] а[сведаміцелем] сказаў:

"Калі падыдуць з захаду нашы /мае на ўвазе палякаў і англічан/, вазьму ў рукі зброю і ўдару па вядомых для мяне людзях".

Нашы мерапрыемствы.

1. С[акрэтным] а[сведаміцелям] "Селезень" і "Угрову" дадзена заданне па магчымасці дамагчыся дадатковых звестак па сітуацыі, якія нас цікавяць.

2. Асобна праглядаем кожнага з чальцоў польскай арганізацыі ў згаданым раёне для падбору сярод іх такога чалавека,



*Савецкія партызаны. Крыніца: vsr.mil.by*

які будзе нам прадастаўляць патрэбную інфармацыю.

[...]

Нам[еснік] нач[альніка] штаба атрада "Сав[ецкая] Беларусь" па агентурна-аператыўнай рабоце палітрук Мельнікаў

30. 12. [19]43 г.

***

***Дакумент без подпісу і даты: Пра польскую сікораўскую[4] падпольную арганізацыю ў Слонімскім раёне Баранавіцкай вобласці***

Польскае насельніцтва ў Слонімскім раёне па месцы яго жыхарства не сканцэнтраванае, усё яно раскіданае па хутарах.

Да прыходу нямецкіх войск у Заходнюю Беларусь дзеянняў польскае насельніцтва не праяўляла, калі ж гэта і было, то было моцна законспіравана. З прыходам нямецкіх войск прыйшлі верхаводы польскага насельніцтва — паны Юшкевіч і Корчыц.[5]

Юшкевіч — заможны паляк, ураджэнец — не ўстаноўлена, жыве на хутары вёс[кі] Багданавічы Слонімскага раёна, жанаты на рускай графіні. Пры Польшчы меў вялікі ўплыў на польскае насельніцтва і знатныя палякі з панам Юшкевічам заўсёды лічыліся і яго паважалі пры ўсіх умовах. Ён быў выбраны дэпутатам у польскі сейм, а пасля прадстаўніком ў дзяржаўны Сейм.

Корчыц — заможны паляк, ураджэнец в. Багданавічы, жыў у в. Багданавічы Слонімскага раёна. У польскім войску атрымаў званне афіцэра. З прыходам Чырвонай Арміі брат Корчыца, які працаваў пры Польшчы войтам гміны, быў забіты беларускімі нац. гвардзейцамі.

Сам Корчыц уцёк у Варшаву. З прыходам нямецкіх войск вярнуўся і Корчыц. З прыездам Корчыца настрой палякаў змяніўся адразу ж, адчувалася рука кіраўніка палякаў Слонімшчыны.

Кіраўніком і прадстаўніком польскай арганізацыі на Слонімшчыне з'яўляецца капітан Дубінскі.[6] Апошні перад вайной польска-нямецкай служыў у горадзе [Слоніме]. Служыў у 80 палку, вайсковае званне капітана атрымаў перад самай вайной.

Цяпер капітан Дубінскі ў асноўным жыве за Нёманам на забеспячэнні польскіх белапаляцкіх легіёнаў, часта ездзіць на Слонімшчыну для ўказанняў ад Варшаўскага цэнтра.

Уся польская арганізацыя на Слонімшчыне складаецца больш чым з 200 чальцоў. Яна разбітая на ўзводы і аддзяленні. Кожны чалец гэтай арганізацыі ведае сваё месца, працу і мэту. Усе яны ўзброеныя. Маюць вялікую колькасць боепрыпасаў, кулямётаў і аўтаматаў.

[сакавік 1944 года?]

***

Зусім сакрэтна

Камандзіру брыгады імя ПАНАМАРЭНКІ л[ейтэнан]ту СЕНЬКІНУ.

НАМ[ЕСНІКУ] НАЧ[АЛЬНІКА] ШТАБА лейтэнанту тав[арышу] РЫГІНУ

СПЕЦ. ПАВЕДАМЛЕННЕ

Пра дзеянні польскай падпольнай арганізацыі

Распрацоўваючы дзеянні польскай падпольнай арганізацыі, шляхам пастаяннага агентурнага назірання, у дадатак да раней перададзенай вам інфармацыі паведамляю наступнае: польскі афіцэр КУНІЦКІ, які жыве ў раёне Азярніцы, з'яўляецца адным з кіраўнікоў польскай арганізацыі гэтага раёна. Нашай крыніцы ўдалося даведацца пра тое, што КУНІЦКІ мае дастаткова вялікія сувязі з Беластоцкай падпольнай арганізацыяй абласнога маштабу. Па заданню Беластоцкага польскага цэнтра Куніцкі распаўсюджвае вялікую колькасць літаратуры. Уся літаратура, якую ён атрымлівае з Беластоку праз машыністаў, кандуктараў і іншую абслугу чыгуначнага транспарту па сваім змесце прасякнутая выключна польскім нацыяналістычным духам і заклікамі змагацца за самастойную Польшчу. Рэгулярна дасылаюцца зводкі пра ваенныя дзеянні на савецка-германскім фронце і міжнародны агляд.

Атрымліваецца і шырока распаўсюджваецца прапаганда пра тое, што Англія і ЗША прымуць дзейны ўдзел і акажуць вялікую дапамогу палякам у аднаўленні польскай дзяржаўнасці.

Днямі КУНІЦКІМ была атрымана чарговая партыя літаратуры з заданнем яе распаўсюду ў раёнах Слонімшчыны і Баранавіч. Але з-за моцнага кантроля машыніст адмовіўся даставіць літаратуру ў раён Баранавіч, таму Куніцкаму пры дапамозе свайго брата давялося шмат літаратуры знішчыць (спаліць) і не даставіць у вышэй згаданы раён.

Размаўляючы з Куніцкім, нашай крыніцы ўдалося высветліць, што ў польскіх арганізацыях у цяперашні час існуюць дзве плыні. Адна частка палякаў настойвае [на тым, каб] ісці браць у немцаў зброю[,] сыходзіць [у лес] і прыступаць да барацьбы "за вольную Польшчу". Іншая частка палякаў пярэчыць гэтаму, заяўляе, што распачынаць барацьбу яшчэ рана, трэба дачакацца зручнага часу. Працягваючы размову з нашай крыніцай, Куніцкі заявіў:

"Нам выступаць яшчэ рана. Усе і ўсё ўжо ў нас падрыхтавана, але яшчэ не час. Усе палякі перакананы ў тым, што Польшчу адновім".

Пасля Куніцкі некалькі разоў згадваў крыніцы пра канспірацыю:

"Нам загадана асцярожна паводзіць сябе, ні ў якім выпадку не выдаваць іншых. Калі хто трапляе [ў рукі ворага], павінен загінуць, але не выдаць нікога".

Ён жа, Куніцкі, даваў намёкі на некаторыя змены, якія павін-


BIULETYN informacyjny

Rok V | Warszawa, 9 marca 1944 r. | Nr. 10 (217)

*Польскія падпольныя выданні 1943-1944 гадоў.*
*Фота: pl.wikipedia.org*

ны адбыцца ў Савецкім Саюзе, але падрабязна на гэты раз пра іх не расказаў.

Аналізуючы агентурныя дакументы, якія атрымліваем, варта адзначыць, што прапаганда польскай падпольнай арганізацыі ў нашым раёне мае ўплыў не толькі на польскае насельніцтва, але і на праваслаўна-беларускае насельніцтва.

Праз агентурную сетку ўстаноўлена, што 5% беларускага праваслаўнага насельніцтва стаіць на баку палякаў і гатовае да іх далучыцца для барацьбы “за свабодную Польшчу”.

Камандзір атрада
“Савецкая Беларусь” мал[одшы] л[ейтэнан]т УЛАСАЎ

Нам[еснік] нач[альніка] штаба па агентурна-аператыўнай рабоце палітрук МЕЛЬНІКАЎ

6. 5. 1944 года

*Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь*

1. Пра дзейнасць польскага падполля на Слонімшчыне гл. наступныя публікацыі: Ситкевич С. Польское антисоветское подполье на Слонимщине в 1939 — 1953 годах // Слонімшчына вачыма навукоўцаў і краязнаўцаў... — Слонім, 2002, с. 307-313; Sosiński T. Słonim. Zarys dziejów. — Sulejówek, 1996, с. 92-93; Krajewski, K. Na Ziemi Nowogródzkiej. “Nów” — Nowogródzki Okręg AK. —Warszawa, 1997, с. 351-352.

2. Ёрш С. Дакумент пра сустрэчу прадстаўнікоў савецкіх партызан і польскага падполля ў 1943 годзе на Слонімшчыне // Слонімскі край, 2016, № 6, ліпень, с. 6-7.

3. Як удалося высветліць, сакрэтным асведаміцелем савецкіх партызан пад псеўданімам “Селезень” быў жыхар вёскі Юхнавічы К. У яго агентурнай справе налічваецца 45 аркушоў, а вось у справе “Угрова” толькі 2. Верагодна, апошні быў выпадковым чалавекам і амаль не прынёс ніякай карыснай інфармацыі савецкім партызанам.

4. Ад прозвішча прэм’ер-міністра польскага эміграцыйнага ўраду Уладзіслава Сікорскага (1881 — 1943).

5. Пра Корчыца гл. таксама наступную публікацыю: СЁ. Войцех Корчыц — унук паўстанца // Слонімскі край, 2016, № 7, жнівень, с. 13.

6. Ніхто з даследчыкаў не згадвае, што польскім падполлем на Слонімшчыне кіраваў нейкі таямнічы “капітан Дубоўскі”. Аднак, як успамінаў слонімец Вячаслаў Сцяпура, у канцы 1930-х у Слоніме служыў капітан Дыбкоўскі, які загінуў падчас вайны. Яго 16-гадовы сын Януш арганізоўваў у горадзе антысталінскую групу (яна складалася з палякаў і беларусаў), але трагічна загінуў восенню 1944 года (больш падрабязна распавядзем у адным з наступных нумароў “СК”).

*ХРОНІКА*

# Устанавілі памятны камень

31 кастрычніка ў Слоніме на Опернай вуліцы каля так званага “Замчышча” ўстанавілі памятны камень. Надпіс на ім выканаў скульптар Леанід Богдан.

Ініцыятарам праекта выступіла грамадскае аб’яднанне “СлонімКаналАгінскага”.

Валун знаходзіцца побач з узгоркам, на якім у розныя часы меліся драўляны астрог, дзядзінец, драўляны замак. Затым тут з’явіўся драўляны палац, на месцы якога ў XVIII ст. пабудавалі палац Міхала Казіміра Агінскага.



Кнігі пра Слонім

# Тры выданні Аляксандра Жукоўскага










Заслужаны работнік культуры, педагог, гісторык і краязнавец Аляксандр Жукоўскі (1920 — 1995) пакінуў у Слоніме найлепшы школьны музей – Народны музей СШ № 4, які носіць яго імя.

Выключная працавітасць, выдатная памяць, талент даследчыка, прынцыповасць, настойлівасць і неардынарнасць думкі дамагалі Жукоўскаму да апошніх дзён жыцця весці пошукавыя і даследчыя працы па ўзнаўленню гераічнага мінулага Слонімшчыны. Акрамя гэтага, ён на працягу ўсяго свайго жыцця шмат пісаў і друкаваў артыкулы па гісторыі, краязнаўстве і педагогіцы.

У 1971 годзе мінскае выдавецтва "Народная асвета" выпусціла ў свет кнігу Жукоўскага "Школьны музей рэвалюцыйнай і баявой славы", у якой аўтар абагульніў багаты вопыт па збору матэрыялаў і арганізацыі школьнага музея, цікава распавёў пра разнастайную працу юных краязнаўцаў, пра тое, як трэба выкарыстоўваць матэрыялы музея ў вучэбнай і выхаваўчай рабоце ў школе і па-за школай.

Праз два гады гэтая кніга Жукоўскага ў выдавецтве "Народная асвета" выйшла на рускай мове. Праўда, аўтар яе пашырыў, больш падрабязна распавёў пра ролю музея ў навучальным працэсе і ў ідэйна-патрыятычным выхаванні школьнікаў. Наклад першага выдання тады складаў 7 тысяч асобнікаў, а другога выдання — 20 тысяч.

У 1990 годзе ў Гродне выйшла яшчэ адна невялікая кніжачка Аляксандра Жукоўскага — "Назаві яго імем", прысвечаная удзельнікам Другой сусветнай вайны, якія мелі непасрэднае дачыненне да слонімскай зямлі. Аўтар распавёў пра ўдзельнікаў вайны М. Мірошніка, Ф. Касянчука, П. Батава, А. Осіпава, І. Тутарынава, І. Пліева, Ф. Сінічкіна і Героя Савецкага Саюза з вёскі Сасноўка Слонімскага раёна Барыса Пішчыкевіча.

**Сяргей Чыгрын**

Філатэлія

# Марка з шыльдай Слонімскай паштовай станцыі

Восенню 1992 года пошта Польшчы выпусціла ў абарачэнне марку з нагоды Міжнароднага дня пошты. Адначасова яна прапагандавала Міжнародную філатэлістычную выставу "Польшча-93". Марка была шматкаляровая, папера — крэйдавая, фармат 31,25 x 43 мм, наклад яе складаў 1,5 мільёны асобнікаў. Аўтар маркі — З. Стасік.

Для беларусаў, асабліва слонімцаў, гэта марка была цікавая тым, што на ёй адлюстраваны паштовы герб з шыльды Слонімскай паштовай станцыі XVIII стагоддзя — Stacya Poczthalteryi Słonimska. Гэтая шыльда сёння захоўваецца ў Вроцлаўскім музеі пошты і тэлекамунікацый (Польшча).

І ў пачатку 1990-х, і сёння гэтая марка выклікае асаблівую цікавасць у філатэлістаў. Асабліва ў тых, хто цікавіцца гісторыяй пошты Беларусі. Па сутнасці, гэта быў першы паштовы выпуск па гісторыі беларускай пошты, калі не лічыць мастацкага канверта пошты СССР, выдадзенага ў 1984 годзе да 125-х угодкаў Мінскага тэлеграфа.




**Сяргей Чыгрын**

З АРХІВАЎ

# Аўтабіяграфія паэта Алеся Сучка (Пятра Дабрыяна)



*Паэт са сваёй сям'ёй, 1980-я гады. Здымак з архіву Сяргея Чыгрына*

7 кастрычніка споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння слонімскага паэта Алеся Сучка (Пятра Навумавіча Дабрыяна, 1916 — 1993).

Гэта быў шчыры, сціплы, светлы чалавек. У маладосці, як удзельнік беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, прайшоў праз польскія турмы. У вайну быў у падпольным і партызанскім руху. У пасляваенны час жыў у Азярніцы, там жа і быў пахаваны. Свой першы верш надрукаваў у лістападзе 1938 года ў віленскім часопісе “Шлях моладзі”.[1]

Творы Алеся Сучка траплялі ў зборнікі, прысвечаныя заходнебеларускім паэтам, а адзіная кніга выйшла ўжо пасля яго смерці. У 2012 годзе творы паэта розных гадоў сабраў пад адну вокладку і выдаў Сяргей Чыгрын.[2]

У гэтым нумары “СК” змяшчаем аўтабіяграфію паэта, напісаную роўна 30 гадоў таму. Яна адшукалася ў зборах Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва ў Мінску. Алесь Сучок напісаў гэты тэкст у Азярніцы для літаратуразнаўца з Брэста Уладзіміра Калесніка, з якім перапісваўся з 1960-х гадоў. Аўтабіяграфія падаецца з шэрагам правак.

**Сяргей Ёрш**

## Аўтабіяграфія

Я, Дабрыян Пётр Навумавіч, па нацыянальнасці беларус, нарадзіўся 7-га кастрычніка 1916 года ў вёсцы Ахматава Алатырскага раёна Чувашскай АССР (раней — Сімбірскай губерні). Там мае бацькі, Навум Васільевіч і Юстына Мікалаеўна, пражывалі як бежанцы, хаваючыся ад вайны з 1915 года, выехаўшы з вёскі Какошчыцы Слонімскага ўезда.

Бацька памёр у 1920 годзе. У 1922 годзе маці нас траіх сірат (мяне, брата Сымона, 1910 года нараджэння, сястру Ганну, 1919 года нараджэння) прывезла на бацькаўшчыну, у вёску Какошчыцы. Хата наша захавалася.

У 1926 годзе я паступіў у пачатковую польскую школу ў суседняй вёсцы Мельканавічы, якую закончыў у 1930-31 навучальным годзе, маючы 5 класаў адукацыі. З прычыны [цяжкіх] матэрыяльных умоў вучыцца далей не было магчымасці, прышлося працаваць разам з братам на сваёй гаспадарцы. Тры гады пасвіў кароў багацейшых гаспадароў вёскі. За адну галаву плацілі 2-2,5 пуда зерня.

У 1931 годзе я паступіў у члены нелегальнай піянерскай арганізацыі. Яе стварылі ў колькасці 5 чалавек Белько Уладзімір Іосіфавіч і Дабрыян Іван Якаўлевіч. На арганізацыйным сходзе, які адбыўся ў нашым гумне, у сакавіку 1931 года мяне выбралі сакратаром піянерскай ячэйкі.

У жніўні 1933 года на сходзе сакратароў піянерскіх арганізацый (прысутнічала 12 чалавек) мяне выбралі сакратаром Слонімскага райкама піянераў. У верасні 1933 года я быў прыняты ў рады камсамола Заходняй Беларусі.

За ўдзел у падпольным піянерскім і камсамольскім руху неаднаразова арыштоўваўся польскай паліцыяй і слонімскай дэфензівай. 27-га ліпеня 1934 года быў арыштаваны і пасаджаны ў слонімскую турму, дзе сядзеў пад следствам да 25-га верасня 1935 года. Гродзенскім акруговым судом быў прыгавораны да 4-х гадоў цяжкога зняволення, як сакратар райкама камсамола.

Прыгавор суда адбываў у слонімскай і беластоцкай турмах. Па амністыі 1936 года быў вызвалены з турмы, адседзеўшы роўна тры гады. Выйшаў з беластоцкай турмы ў сакавіку 1937 года, зноў прыступіў да падпольнай работы ў КСМЗБ.

27 лютага 1939 года быў зноў арыштаваны і сасланы ў кан[ц]-лагер — Картуз-Бяроза, дзе




*Пётр Дабрыян пад следствам, 1934 г. Здымак з архіву Сяргея Чыгрына*

прасядзеў да 18-га верасня 1939 года, да вызвалення Заходняй Беларусі Чырвонай Арміяй. Нейкі час працаваў на сваёй гаспадарцы, пісаў вершы і адсылаў іх у слонімскую райгазету "Вольная праца".

25 лістапада 1939 года прыняты на работу ў рэдакцыю газ[еты] "Вольная праца" ў якасці літработніка. Рэдактарам газеты быў таварыш Чарняўскі Іосіф Антонавіч.

14 красавіка 1941 года слонімскім ваенкаматам прызваны ў будаўнічы батальён № 445 на будаўніцтва аэрадрома каля горад[а] Свіслач Беластоцкай вобласці, дзе і захапіла мяне вайна. Прышлося застацца ў акупацыі, бо адыйсці на ўсход не было магчымасці.

Нейкі час працаваў на сельскай гаспадарцы разам са сваім братам у вё[сцы] Какошчыцы. З лютага месяца 1942 года прымаю актыўны ўдзел у падпольным антыфашысцкім руху моладзі. Зразу назначаны сакратаром Какошчынскага падраёна, а пазней членам Слонімскага падпольнага райкама антыфашысцкай арганізацыі да часу вызвалення Слонімшчыны ад нямецкіх захопнікаў.

Па загаду сакратара Слонімскага падпольнага райкама партыі тав[арыша] Анішчыка Міхаіла Трафімавіча адходжу ў партызанскі атрад імя Дзяржынскага брыгады імя Ракасоўскага, які знаходзіўся ў Акунінаўскіх лясах Слонімскага раёна, дзе працаваў у рэдакцыі падпольнай газеты "Вольная праца" разам з Міско І. Д. і Бурсевічам М. В., з 20-га сакавіка па 10 ліпеня 1944 года.

Пасля выхаду з партызан працаваў літработнікам у рэдакцыі да жніўня месяца. Рашэннем Слонімскага РК КПБ назначан другім сакратаром Слонімскага райкама камсамола. 19 лістапада 1944 года прызваны на службу ў Чырвоную Армію. Служыў у 6-ым Запасным Кавалерыйскім палку гор[ада] Барысаў (ваенны гарадок Печы). З 4-га снежня 1945 г. пераведзен у горад Кірсанаў Тамбоўскай вобласці ў кавалерыйскае вучылішча 1-й Коннай Арміі ў батальён баявога забяспячэння, дзе праслужыў камсаргам батальёна да дня дэмабілізацыі 10 мая 1946 года.

Вярнуўся з арміі ў вёску Азярніца Слонімскага раёна. Тут жыла мая жонка Марыя Васільеўна з сынам Тадзікам. У шлюб мы з ёй уступілі 20 студзеня 1940 года. Зразу працаваў загадчыкам хаты-чытальні, пасля — дырэктарам Азярніцкага Дома культуры. На выбарах у мясцовыя саветы ў сакавіку 1951 года выбраны дэпутатам сельскага савета, а на сесіі — старшынёй Азярніцкага сельсавета. На гэтай рабоце працаваў да сакавіка 1953 года. Пасля гэтага з ліпеня 1953 года да ліпеня 1956 года працаваў інструктарам Слонімскага РК КПБ па Слонімскай зоне МТС. З гэтай работы звольнены па прычыне малой адукацыі — 7 клас[аў].

8 гадоў працаваў у калгасе "Прагрэс" Слонімскага раёна на розных работах, а 3-га сакавіка 1963 года па сакавік 1979 года — стрэлачнікам станцыі Азярніца Слонімскага раёна.

На персанальнай пенсіі з 1976 года, член КПСС з ліпеня 1951 года. Узнагароджаны:

медалём за перамогу над фашысцкай Герм[аніяй];

медалём "За баявыя заслугі";

Ленінскім медалём "100 гадоў";

граматай Вярхоўнага Савета БССР ад мая 1972 [года] за выхаванне падрастаючага пакалення;

медалём "40 гадоў Перамогі";

ордэнам Айчын[н]ай вайны II ступені.

По стану здароўя не працую.

26/XI 1986 г. П. Дабрыян

*БДАМЛіМ, ф. 161, в. 2, спр. 293, арк. 37-39адв., рукапіс.*[3]

---

1. Ён быў падпісаны псеўданімам "Андрэй Сучок", які паэт пасля змяніць на "Алесь Сучок". Гл.: СЁ. Пра таямніцу псеўданіма паэта Пятра Дабрыяна // Слонімскі край, 2016, № 1, люты, с. 12.

2. Алесь Сучок. Захацелася шчасця. З паэтычнай спадчыны. — Мінск, 2012.

3. Да рукапіса аўтабіяграфіі быў далучаны ліст П. Дабрыяна да У. Калесніка. У ім паэт, між іншым, піша: "Хачу сказаць, што пры панскай Польшчы мне жыхар нашай вёскі Какошчыцы Сямён Фёдаравіч Дабрыян падараваў кнігу "Гісторыя рускай славеснасці". З гэтай кнігі мне прышлося пачарпнуць асноўныя веды вершасkладання. У ёй было ўсё: і рытм, і рыфма і ўсе другія атрыбуты. Мусіць гэтая кніга і стала тым стымулам, дапамагла мне выйсці ў шырокі свет".



*Алесь Сучок (Пётр Дабрыян), 1980-я гады. Здымак з архіву Сяргея Чыгрына*

*Знаходкі*

# Слонім на ігральнай карце, якой 200 гадоў

У першыя дзесяцігоддзі XIX стагоддзя ў Расійскай імперыі выйшаў набор з 60 ігральных карт (іх намаляваў нехта К. Грыбанаў). Большасць з іх адпавядала пэўнай губерні.

Слонім у той час з'яўляўся павятовым цэнтрам Гродзенскай губерні. На адным баку карты змешчаны назва губерні, яе герб, пералік гарадоў, малюнак жанчыны ў нацыянальным строі. На другім баку — карта губерні з пазначэннем лічбамі гарадоў, з асноўнымі рэкамі (у тым ліку і Шчарай). На малюнку відаць, што праз Слонім у той час праходзілі галоўныя дарогі губерні. Таксама на карце пазначалася адлегласць ад губернскага цэнтра (Гродна) да Пецярбурга і Масквы.







**Генадзь Гурскі**

*Каляндар*

## Лістапад



**2 лістапада** 1870 года ў Слоніме нарадзіўся Язэп Стаброўскі, вайсковец і навуковец, археолаг, заснавальнік Слонімскага раённага краязнаўчага музея. Памёр у 1968 годзе, пахаваны ў в. Орлавічы.

**3 лістапада** 1890 года ў Слоніме нарадзіўся Канстанцін Пушкарэвіч, літаратуразнавец, філолаг, перакладчык. Памёр у 1942 годзе ў блакадным Ленінградзе.

**6 лістапада** 1911 года ў Слонімскім павеце прызямліўся паветраны шар, які стартаваў у далёкім Парыжы. Як пісала газета "Новое время", слонімцаў прывітаў члец парыжскага аэраклуба Жуль Дзюбуа.

**13 лістапада** 1985 года ў Гродне памёр наш зямляк Антон Валынчык, харавы дырыжор, кампазітар, педагог. Восенню 2016 года на фасадзе корпуса Купалаўскага ўніверсітэта на вуліцы Дзяржынскага ў з'явілася памятная шыльда ў яго гонар (на здымку з сайта racyja.com).




**14 лістапада** 2014 года ў Слоніме ўпершыню прайшлі абласныя "Дажынкі". Да іх была рэканструявана плошча перад раённым выканкамам.




**17 лістапада** 1986 года ў гарадскую рысу Слоніма была ўключана вёска Цывіншчына Паўлаўскага сельсавета. У Навадзевяткавіцкім сельсавеце афіцыйна перастаў існаваць хутар Падгорцы.

**19 лістапада** 1896 года ў вёсцы Гавенавічы на Слонімшчыне (цяпер — в. Падгорная Баранавіцкага раёна) нарадзіўся Іосіф Вількоўскі, заходнебеларускі паэт Язэп Вількоўшчык. Памёр у 1984 годзе.



**19 лістапада** 2008 года ў Слоніме на 78-м годзе жыцця памёр вядомы паэт і навуковец Алег Лойка. Пахаваны на гарадскіх могілках па вуліцы Чырвоных партызан.



**21 лістапада** 1983 года ў Слоніме нарадзіўся спявак, паэт, кампазітар, гітарыст, дудар Яўген Барышнікаў. Жыве ў Мінску.

- Што такое Слонімшчына?
- Гэта наша Беларусь!
- Што такое Беларусь?
- Гэта наша Ўсё!

**Слонімскі край**
Краязнаўчы бюлетэнь
Выдаецца з лютага 2016 года

Адрас для карэспандэнцыі:
slonimskikraj@gmail.com
Пры перадруку спасылка на СК абавязковая

Заснавальнікі і выдаўцы:
Васіль Герасімчык
Сяргей Ёрш
(рэдактар нумару)
Сяргей Чыгрын